ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 30 (1576) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 27 ЛІПЕНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл



Летні полых поля. Фота Я. Целушэцкага

## ХВАЛЮЮЧЫЯ СПРАВЫ

На Беласточчыне здаўна жывуць разам палякі і беларусы. У беларусаў ёсць свая нацыянальная спецыфіка, свае нацыянальныя традыцыі, звычаі і свае духоўныя запатрабаванні. Справа ў тым, каб сужыццё палякаў і беларусаў складвалася як найлепш, у духу братэрства і сардэчнасці, каб панавала ўсюды спрыяльная атмасфера і дапамога ў дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Гэтым справам 26 чэрвеня г.г. было прысвечана супольнае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ і Ваяводскай рады ПРОН з удзелам запрошаных прадстаўнікоў ваяводскіх партыйных і адміністрацыйных улад, разам з намеснікам ваяводы Ежы Слезакам і пасламі Сейма Гертрудай Орляч і Яўгенам Чыквіным.

На пачатку намеснік старшыні ГП д-р Янка Зенюк папоўніў бягучымі актуальнасцямі прадстаўленую раней усім удзельнікам пасяджэння пісьмовую інфармацыю Прэзідыума ГП пра дасягненні і цяжкасці ў дзейнасці БГКТ.

Дыскусію распачаў сакратар Ваяводскага камітэта ЗСЛ Яўген Гасеўскі, які выказаў глыбокую пашану для дзейнасці БГКТ і падтрымку ёй з боку ЗСЛ, падкрэсліў добрае супрацоўніцтва некаторых гмінных праўленняў і гурткоў ЗСЛ з БГКТ.

Сакратар Ваяводскага камітэта СД Антоні Святліцкі прыгадаў урачысты пленум ГП БГКТ і канцэрт з нагоды XXX гадавіны БГКТ і „Нівы“, на якім ён меў магчымасць пераканацца пра вялікую ролю БГКТ у беларускім асяроддзі.

— Усе мы можам больш зрабіць пры дапамозе і падтрымцы дзеяннаў БГКТ, асабліва ў пашырэнні інфармацыі — сказала пасол Гертруда Орляч. — Справа ў тым, што аб вялікай і карыснай працы БГКТ мала гаворыцца і мала вядома ў нашым ваяводстве.

— Вось таму неабходна шырокая папулярызацыя дзейнасці БГКТ у сродках масавай інфармацыі, у тым ліку і ў нашым прафсаюзным бюлетэні „Пагадненне“, які даходзіць да ўсіх установ і мясцовасцяў нашай краіны, — гаварыў намеснік старшыні Ваяводскага пагаднення прафсаюзаў Юзаф Сэкольскі. — Бачу патрэбу наладжання супрацоўніцтва БГКТ з нашай прафсаюзнай камісіяй культуры, спорту і адпачынку.

— На сённяшнім пасяджэнні закранаем мы вельмі важную праблему ў нашым ваяводстве.

(Працяг на стар. 2)

## ПАМЯЦЬ АБ ГРАМАДЗЕ

У Філіяле Беластоцкага акруговага музея ў Бельску Падляшскім ад 27 чэрвеня часова экспануецца выстаўка з нагоды 60-годдзя Беларускай сялянска-рабочай Грамады. Сарганізаваў яе мгр Аляксандр Антонюк — загадчык Музея рэвалюцыйнага руху ў Беластоку. На выстаўцы знаходзяцца архіўныя дакументы, фотарэпрадукцыі і іншыя матэрыялы.

Пачаткам быў дзень 24 чэрвеня 1925 года. Тады ў Сейме ўтварыўся асобны клуб Беларускай сялянска-рабочай Грамады, які разам з клубамі Камуністычнай пасольскай фракцыі і Незалежнай сялянскай партыі аб'яднаўся ў Рабоча-сялянскі блок. Пасламі клубу Грамады былі: Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Пётр Мятла і Павел Валошын. На выстаўцы можна папоўніць свае веды з гэтай дзялянкі нашай гісторыі на беларускай мове. Тут выкладзены Бюлетэні сеймавага клуба Грамады, у якіх змешчаны прамовы, інфармацыі і праграма. У жніўні 1925 года па ініцыятыве КПП і КПЗБ з удзелам беларускіх дзеячоў адбылася ў Гданьску канферэн-

(Працяг на стар. 4)

## БЕЛАВЕЖСКАЕ ЗАЎТРА

У Белавежы ў апошніх гадах час не стаяў на месцы. Многа тут будавалася, рамантавалася, мадэрнізавалася. Эфекты відаць амаль на кожным кроку. Аб іх таксама пісалі ў друку, у тым і ў „Ніве“. А чаго могуць спадзявацца жыхары гміны ў бліжэйшыя гады? Прыняты грамадска-гаспадарчы план гміны на гады 1986-90 шмат што прадбачвае. Некаторыя заданні ўжо выконваюцца. Але ўсё па чарзе. Спачатку прыглядзімся планам гаспадаркі: камунальнай і кватэрнай, а таксама камунікацыі.

Мяркуецца, што будуць пакладзены тратуары на вуліцах В. Габец, Крыжы, Грудкоўскай, Паўднёвай, Новай, Польнай, Трапінцы, Меляшкоўскай, Падлеснай, Гранічнай і на Падалянах. Асфальт мае паявіцца на вуліцах Паўднёвай, Польнай, Падлеснай, у Завулку II і на Падалянах. Будзе прадоўжана вуліца Спартовая. Водаправодная нітка дойдзе на Падаляны I і II і на вуліцы Гранічную, Паркову і Вайцяхоўку. Новыя энергетычныя лініі паявяцца на вуліцах Агароднай, Застава-Мост і ў Завулку II. Будзе мадэрнізавана ўся вуліца В. Габец.

Прадбачваецца генеральнае вырашэнне праблемы ачышчання камунальных сцёкаў. Ачышчальню пачнуць будаваць у III квартале 1987 г. Кошт пабудовы каля 300 мільёнаў зл. Ёсць таксама намеры збудаваць ачышчальні ў некаторых прадпрыемствах.

Ужо вырашана (з 1 чэрвеня г.г.) справа ўвядзення аўтобуснай камунікацыі праз вёскі Буды, Тэраміскі, Пагарэльцы. У чэрвені г.г. пачаліся працы пры пракладцы новай падземнай, энергетычнай лініі з Гайнаўкі ў Белавежу. Старую, паветраную лінію чакае рамонт і мадэрнізацыя. Разбудоўваецца і мадэрнізуецца таксама тэлефонная лінія. Аўтаматычная тэлефонная станцыя дае магчымасць павысіць лік абанаментаў да 700 (зараз у Белавежы адзін з найвышэйшых паказальнікаў у ваяводстве — 103,8 абанамента на 1 тысячу жыхароў). Новая тэлефонная лінія будзе пракладзена

(Працяг на стар. 4)

УВАГА: ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ — РАСКЛАД ПКП З САКОЛКІ

(Працяг са стар. 1)

# Хвалюючыя справы

на колькі забяспечаны нацыянальныя патрэбы беларускай меншасці, як рэалізуецца нацыянальная палітыка, якая найбольш адпавядала б сферы культуры і асветы. І тут спатыкаемся мы з вялікімі цяжкасцямі, — сцвердзіў член Прэзідыума ГП, дырэктар беларускага ліцэя ў Гайнаўцы Аляксандр Іванюк. — 30 гадоў гаворым мы аб Музеі беларускай культуры і надалей яго пабудова невядома калі распачнецца. Існуе пільная патрэба пабудовы Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Пра гэта таксама многа гаворыцца, але пакуль што толькі гаворыцца. Гэтыя дзве ўстановы маглі б быць візітнымі картачкамі нацыянальнай палітыкі.

Аб працы і дасягненнях Беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім паінфармаваў яго дырэктар, дэлегат X з'езда ПАРП Аляксей Карпюк. Ён падкрэсліў, між іншымі, што ў гэтай школе вучацца таксама дзеці палякаў і зусім добра адчуваюць сябе і прыгожа размаўляюць на беларускай мове.

У інфармацыі ГП БГКТ у справе навучання беларускай мовы ў падставовых школах акцэнтаваліся цяжкасці ў матэрыяльнай базе школьніцтва, а калі ідзе пра беларускую мову, то наглядаецца значнае змяншэнне колькасці школ, у якіх навучаецца родная мова. Такому стану спрыяе і тое, што заняткі па беларускай мове ў школе дабравольныя, значыць, нераўнапраўныя з іншымі прадметамі. А дзеці, як дзеці: яны імкнуцца да таго, каб мець як найменш заняткаў, каб аблегчыць сваю працу і з гэтым мірацца бацькі. Аб гэтым гаварылі Янка Зенюк і Міхась Хмялеўскі.

Праўда, у апошніх гадах павялічваецца папрысе колькасць школ з навучаннем беларускай мовы і колькасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову. Інфармаваў аб гэтым працаўнік Кураторыі асветы і выхавання Стэфан Крэнтоўскі. Ён таксама адзначыў, што найбольш клопатаў з навучаннем беларускай мовы ў горадзе Беластоку, ў якім жыве некалькі дзесяткаў тысяч беларусаў і ёсць шмат актыву БГКТ. Няглядзячы на тое, што дырэктары аб'яўлялі ў школах горада запіс ахвотных на беларускую мову, але з гэтага нічога не выйшла. Тут патрэбная большая роля актыву БГКТ у заахвочванні дзяцей да вывучання роднай мовы. Бацькі павінны зразумець, што гэта справа мае вялікае значэнне для кожнага дзіцяці, для ўсіх беларусаў у Польшчы.

— Але ў чым прычына, што беларусы ў горадзе не хіляцца да роднай мовы? Няўжо ў беларусаў Беластока (яны прыбылі ў асноўным з вёсак) такая нізкая нацыянальная свядомасць? Ці яны без нацыянальнага пачуцця? — Над такімі пытаннямі разважаў старшыня Беластоцкага аддзела Хрысціянскага грамадскага аб'яднання, пасол Сейма Яўген Чыквін і выказаў сваё меркаванні. — У Беластоку нізкая талерантнасць у грамадстве, звязаная з веравызнаннем. Якраз гэта ўздзейнічае і на нацыянальныя адносіны. Вось у тым і прычына — паводле пасла Я. Чыквіна, што беларусы затойваюць сваё веравызнанне і нацыянальнасць, бо гэтак ім выгадней і спакайней жывецца і працуецца.

Бацькі і дзеці, спазнаўшы на сабе непрыхільныя адносіны, не хочуць, каб у школе ведалі, што яны з беларускіх сем'яў і каб па гэтай прычыне з іх непрыемна жартавалі ці дакаралі іхнія

(Працяг на стар. 3)

# Весткі з Беларусі

## „АБУТАК" ДЛЯ ТРАКТАРА

Атрымалі моцны „абутак" новыя энерганасычаныя беларускія трактары МТЗ-100. У аб'яднанні „Бабруйск-шына" для іх пачаты серыйны выпуск пакрышак павышанай трываласці. У параўнанні з аднатыпнымі вырабамі для папярэдніх мадэлей „Беларусь" пратэктар у гэтых шын значна шырэйшы, дзякуючы чаму трактар набывае ўласцівасці ўсюдыхода.

Выпуск навінні шынніка асвоілі без спынення канвеера і не змяншаючы планавай праграмы. На дзеючых плошчах яны стварылі доследна-прамысловую вытворчасць, дзе сваімі сіламі ўдасканалілі фармовачныя, зборачныя і іншыя агрэгаты. Падраздзяленне будзе расшырацца па меры росту выпуску энерганасычаных машын на Мінскім трактарным заводзе імя У. І. Леніна, каб поўнасцю забяспечыць яго патрэбы.

## ХУТЧЭЙ ЗА ДУМКУ

Здольнасцю жывых істот — бачыць і аналізаваць — надзялілі прыборы вучоныя Навукова-даследчага інстытута прыкладных фізічных праблем Белдзяржуніверсітэта. Яны стварылі арыгінальную сістэму, якая дазваляе вымяраць лінейныя перамяшчэнні аб'ектаў, „навучылі" яе вылічваць хуткасці назіраемых прадметаў, а паралельна — кантраляваць якасць і дакладнасць выканання гэтых задач.

Навінка знойдзе шырокае прымяненне ў тых сферах, дзе неабходна вельмі хутка, за долі секунды, вымяраць лінейныя перамяшчэнні. Прычым рабіць гэта з высокай дакладнасцю і на значных, да 40 метраў, адлегласцях. Спецыялісты лічаць, што новыя прыборы прыкметна павысяць тэхнічны ўзровень металаапрацоўчых цэнтраў у гібкіх аўтаматызаваных вытворчасцях.

„Зрокавую" нагрузку ў сістэме бяруць на сябе спецыяльныя датчыкі. Яны ж дазваляюць прыводзіць так званае бескантактнае зніманне інфармацыі за кошт адноснага прастага пераўтварэння светлавога сігнала ў лічбавы код.

## ФЕРМА ДЛЯ ДЗІКІХ КАЧАК

У Жыткавіцкім лясгасе створана першая на Гомельшчыне ферма па развядзенню дзікіх качак.

Частку вадаёмаў агарадзілі металічнай сеткай, а зверху накрылі беллю — рыбалоўнай снасцю. У цэнтры вальера зрабілі крыты навес, дзе качаняты змогуць схавацца ў непагадзь. Неўзабаве тут з'явіцца першае патомства.

Беларускае Палессе здаўна славілася разнастайнасцю насельнікаў лясоў і вадаёмаў. Аднак гаспадарчая дзейнасць чалавека прывяла да скарачэння некаторых відаў жывёл і птушак. Каб захаваць багацце прыроды, у вобласці арганізавана дзевяць запаведнікаў і заказнікаў. Рэдкія віды жывёл, птушак, раслін узяты пад ахову. А для ўзнаўлення некаторых відаў птушак ствараюцца спецыяльныя фермы. У Буда-Кашалёўскім раёне, напрыклад, некалькі гадоў назад створаны фазанарый. Сёлета некалькі тысяч качанят, выгадаваных на Жыткавіцкай ферме, выпушчана ў раёне возера Краснае і іншых вадаёмаў.

У перспектыве падобныя цэнтры для папаўнення палескай фауны будуць ствараццa ў іншых раёнах вобласці.

## НАВІНКА „МЕЛОДЫІ"

Усесаюзная фірма „Мелодыя" выпусціла ў свет новыя пласцінкі, якія знаёмяць слухачоў з разнастайнай музычнай культурай Беларусі. Аматары харавой музыкі змогуць паслухаць запіс выступлення Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Беларускай ССР пад кіраўніцтвам Міхаіла Дрынеўскага. У праграме дыска-гіганта папулярныя беларускія народныя песні, творы кампазітараў Э. Ханка, І. Лучанка і іншых.

## ШКОЛЬНЫ КРАЯЗНАЎЧЫ

Чатыры залы, пяць аддзелаў — такім стаў пасля рэканструкцыі музей Валеўскай сярэдняй школы Навагрудскага раёна. Амаль тры тысячы экспанатаў расказваюць аб прыродзе роднага краю, гісторыі школы (а ёй больш ста гадоў), быце сялян да 1939 года, барацьбе з гітлераўскімі акупантамі, пасляваенным развіцці мясцовага калгаса „Свіцязь", аб праслаўленых земляках — дзеячах культуры.

Музей — вынік творчасці дзяцей з гуртка „Актывісты школьнага музея" і выкладчыкаў гісторыі і літаратуры Васіля Піліпавіча Ускова і Уладзіміра Аляксандравіча Урбановіча.

Праз Валеўку праходзяць турысцкія маршруты на Навагрудак, возера Свіцязь, і таму ў музеі бывае шмат экскурсій. У дні канікулаў сюды прыходзяць школьнікі з навакольных вёсак.

## СПОРТ

На чэмпіянаце СССР па фехтаванню ў Ленінградзе ў камандным турніры рапірыстаў перамагла зборная Беларусі. Выдатна выступіў лідэр беларускай каманды пяціразовы чэмпіён свету А. Раманькоў. Ён прынёс чатыры ачкі з чатырох магчымых у фінальнай сустрэчы з масквічамі. За зборную рэспублікі выступалі таксама браты А. і Ю. Федзіны, У. Ніканчыкаў і Ф. Мільчакоў. Бронзавыя ўзнагароды заваявалі рапірысты Азербайджана.

# На Захадзе без перамен

## КУЛЬТ КОЛЬТА

Журнал „Штэрн" апублікаваў артыкул галоўнага рэдактара В. Вінтэра аб паліцыі ЗША. Артыкул прыводзіцца ў скарачэнні.

У Федэратыўнай Рэспубліцы ніякая статыстыка не ўлічвае ліку тых, хто гіне ад прымянення вогнястрэльнай зброі. Але ёсць вельмі паказальныя лічбы, атрыманыя з іншых краін. Так, у працягу года з пісталета ў Японіі забіваюць 77 чалавек, у Вялікабрытаніі — 8, у Швейцарыі — 24, у Канадзе — 8, у Злучаных Штатах — 11522.

11522 забітых за адзін год — гэта лічба вельмі пераканаўча паказвае праўду аб той краіне, прэзідэнты якой пастаянна і назойліва навязваюць свету сваё „лідэрства". Каля 120 мільёнаў адзінак вогнястрэльнай зброі знаходзіцца ў прыватным уладанні прыкладна 234 мільёнаў грамадзян Злучаных Штатаў, і кожны дзень там дзе-небудзь „адкрываюць агонь". Рэвальвер сістэмы „Сміт і Весан" замяняе сабою адваката, забойства — аргументы, насілле — гэта ж такая нармальная з'ява, як кока-кола і „хот-догс" — сасіскі, якія прадаюць з латкоў на вуліцах. Зброя — частка амерыканскага характару. Зафіксаванае ў канстытуцыі права кожнага грамадзяніна на тое, каб мець пры сабе зброю, свяшчэнна для амерыканцаў. Распаўсюджана думка аб тым, што сапраўдны мужчына павінен мець зброю не толькі для таго, каб яе насіць, але таксама і для таго, каб „браць правасуддзе ў свае ўласныя рукі".

Так, гэта таксама Амерыка. Кольт пераўтвараецца ў прадмет культу, для яго створаны спецыяльныя музеі, які ўзвелічае да ўзроўню нацыянальнага героя меткага і бязлітаснага каўбоя.

Як маглі ў Еўропе ўсур'ёз дапускаць, што амерыканскі вобраз думання не праявіцца ў амерыканскай палітыцы?

Вядома, амерыканцы ў захапленні ад таго, што ЗША нарэшце правучылі лівійцаў — „так і трэба!" Звыш 70 працэнтаў апладзіравалі начной акцыі, ахвярай якой сталі дзеці. І з другога боку: звыш 70 працэнтаў заходніх немцаў, як паказала апытанне грамадскай думкі, праведзенае па даручэнню журнала „Штэрн", асудзілі налёт на Лівію. У гэтых лічбах знаходзіць сваё адлюстраванне тое, што далёка выходзіць за рамкі ацэнкі аднаго ізаляванага інцыдэнта, а менавіта глыбокая трывога, якую многія еўрапейцы зазнаюць ад усё больш агрэсіўнай амерыканскай знешняй палітыкі.

# СВЯТКУЕ ВЯРХЛЕС!

Вёска Вярхлес найцікавейшая ў Шудзялаўскай гміне. У ёй жыве працавіты і дбайны народ — беларусы і палякі. Частка ходзіць у царкву, частка — у касцёл. Тут 180 сем'яў. І жывуць яны згодна, узаемна ўшаноўваюцца, парадніліся. Усе гавораць на беларускай мове і польскай мовай таксама добра валодаюць і карыстаюцца. Адным словам, тут дзвюхмоўнасць ды забавязалася да працы пры пабудове. Найбольш ахвярна працаваў Анатоль Аношка. Будынак гэты можна крыць і выканчваць унутры.

У Вярхлесе адна вуліца патрабавала рамонту. І тут зноў па ініцыятыве партыйнай арганізацыі, якой сакратаром Ян Анісkевіч, і пры заангажаванні солтыса Анатоля Арцюха, а таксама Анатоля Аношкі, Яна Гораша і іншых, жыхары Вярхлеса пры дапамозе гміны ўзяліся аднаўляць вуліцу.

Як рэдка якая вёска ў Шудзялаўскай і суседніх гмінах, у



Солтыс в. Вярхлес Анатоль Арцюх І сакратар КГ ПАРП у Шудзялаве Станіслаў Кувэйша і Анатоль Аношка — грамадскі дзеяч.



Выступае хор з Рыбалаў.



Члены праўлення гуртка БГКТ у Вярхлесе — Леанарда Абухоўская, Вяслаў Малахвей, Вера Аношка, Вяслаў Амбразейчык, Анна Гораш і інспектар ГП Аляксандр Рафаловіч.



На беларускім святе ў Вярхлесе сабралася мноства народу.

даўно здабыла грамадзянства.

Жыхары Вярхлеса прысвячаюць многа часу і сродкаў для супольнай карысці. Тут у грамадскім пачыне, пры падтрымцы гміны, будуецца вясковы камбінат культурна-грамадскіх паслугаў. У ім будзе пункт аховы здароўя, раміза, пошта, бібліятэка, святліца ды спецыяльная вялікая зала на розныя ўрачыстасці, вяселлі, танцавальныя вечарыны. Кожная сям'я ў гэтую справу ўнесла свой грашовы ўклад па 2 тысячы злотых

Вярхлесе не змяншаецца людзей малодшага пакалення і моладзі. Тут больш за 50 чалавек працуе ў Сакольскай фабрыцы сталяркі, „Спомашы", ПОМе, у лесе і іншых дзяржаўных работах. Адначасова яны абрабляюць свае гаспадаркі, маюць шмат сельскагаспадарчых машын, уключна з трактарамі, дабіваюцца высокіх ураджаяў. Жывуць заможна, дбаюць пра выгляд сваіх забудаванняў, будуюць прыгожыя дамы.

У Вярхлесе здаўна існуе гурток БГКТ. У бягучым годзе ён ажывіўся. Асабліва стала цікавіцца культурна-асветнай дзейнасцю моладзь. І вось маладыя людзі пастанавілі, каб у сувязі з XXX гадавінай БГКТ і „Нівы" ў іх вёсцы наладзіць беларускі народны фэстын. Праўленне гуртка пры дапамозе інспектара ГП БГКТ на Сакольскі і Дуброўскі аддзелы Аляксандра Рафаловіча занялося гэтай справай. Старшыня гуртка Леанарда Абухоўская і члены праўлення Вера Аношка, Анна Гораш і асабліва Вяслаў Малахвей і Вяслаў Амбразейчык рабілі ўсё, каб імпрэза прайшла як мага лепш.

І так, 6 ліпеня на фэстын сабралася больш тысячы чалавек. ГС забяспечыў свята харчавымі прадуктамі і напіткамі.

Прыбылі на ўрачыстасць першы сакратар Гміннага камітэта ПАРП у Шудзялаве Станіслаў Кувэйша, старшыня рэвізійнай камісіі аддзела БГКТ Юрка Малеша і, зразумела, Аляксандр Рафаловіч. Неўзабаве прыехалі самадзейнікі з Рыбалаў і Паўлаў. Фэстын адкрыў член праўлення гуртка БГКТ у Вярхлесе Вяслаў Малахвей, а з дакладам выступіў член Прэзідыума ГП журналіст „Нівы" Міхась Хмялеўскі.

У багатай мастацкай частцы, якую вёў інспектар ГП Янка Мордань, Рыбалы выступілі са шматлікімі песнямі, а Паўлы — з „Немцамі" Л. Кручкоўскага, жартамі, частушкамі.

Мастацкая частка працягвалася больш за дзве гадзіны. Усім яна спадабалася. Самадзейнікаў сардэчна прыняла публіка, а пазней — праўленне гуртка. Вывезлі яны з Вярхлеса многа цёплых уражанняў.

Затым распачалася дыскатэка і доўга ўначы гулялі моладзь і дарослыя.

Беларускі фэстын у Вярхлесе быў вельмі ўдалы.

(мх)

**Фота аўтара**

(Працяг са стар. 2)

# ХВАЛЮЮЧЫЯ СПРАВЫ

аднакласнікі. Адносіны да свайго роднага ў Беластоку фармуе сітуацыя. Недарэчнасць і тое, што беларускія мясцовасці часта называюць „усходняй сцяной". Таксама паўгадзінная радыёперадача ў тыдні на беларускай мове па Беластоцкаму радыё — несур'ёзнае вырашэнне справы, бо яна несуразмерная колькасці беларускага насельніцтва на Беласточчыне.

Член Прэзідыума Ваяводскай рады ПРОН, старшыня Гміннай рады ПРОН у Нарве Янка Ваўрэнюк звярнуў увагу на мастацкі аматарскі рух. Яму неабходна аказаць усебаковую дапамогу перш за ўсё з боку гмінных улал і ўстаноў. Нельга дапусціць да занікання фальклору, традыцыяў і абычаяў.

Намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня сцвердзіў, што мастацкая самадзейнасць магла б быць куды больш дасканалая, калі б мела яна належную інструктарскую дапамогу, адпаведныя строі, даступнейшы транспарт і добры рэпертуар.

— На культурную дзейнасць патрэбны грошы, а іх у БГКТ не хапае. Няма грошай на ганарары за творчасць нашых літаратараў, няма дастаткова сродкаў нават на падставовую культурна-асветную дзейнасць, — заўважыў ён.

Мы ж дадамо: а што ўжо казаць пра стварэнне хаця б самага маленькага штатнага эстраднага калектыву, які б папулярызаваў беларускую культуру, як калісьці „Лявоніха"?

Старшыня Ваяводскай рады ПРОН прафесар Пётр Боранъ, які вёў нараду, падкрэсліў, што беларуская нацыянальная меншасць моцна спрыяе стабілізацыі адносін у нашай краіне. Ён сцвердзіў неабходнасць стварэння ўсімі добрай грамадскай і абычаёвай атмасферы і ўзаемнай талерантнасці паміж веруючымі і няверуючымі, рознымі веравызнаннямі і нацыянальнасцямі.

— ПРОН дзеля гэтага і ёсць, каб ставіць усе справы, хвалюючыя розныя асяроддзі, і дабівацца іх належнага вырашэння. Таму сённяшняе пасяджэнне карыснае і патрэбнае, — падкрэсліў ён у заключным слове.

**Міхась Хмялеўскі**

## ФІЛЬМ ПРА П. САВІЦКАГА

На экраны кінатэатраў нядаўна ўвайшоў дакументальны кароткаметражны фільм „Пінокіё Пётруся пана", створаны ў 1985 г. Збігневам Кавалеўскім. Паказвае ён вядомага на Беласточчыне Пятра Савіцкага — стваральніка Лялечнага тэатра ў Беластоку, а таксама для няпоўнаспраўных дзяцей на пасёлку Звярынец. П. Савіцкі расказвае ў фільме пра сваё жыццё, ваенны шлях у час II сусветнай вайны. Успамінае пра пачаткі свае сцэнічнай дзейнасці на тэрыторыі Савецкага Саюза, выступленні ў салдацкіх тэатрах у Іране, Іраку, Палесціне, удзел у здымках у Італіі фільма „Вяртанне на радзіму", грамадскую дзейнасць. Паяўляецца ў фільме таксама галоўны рэквізіт П. Савіцкага — драўляны Пінокіё, якога ён прывёз калісьці з Італіі. Каляровы фільм, зняты Тамашам Вудзкім на кінастудыі дакументальных фільмаў у Варшаве.

**П. Байко**

(Працяг са стар. 1)

# БЕЛАВЕЖСКАЕ ЗАЎТРА

ў вёскі Пагарэльцы, Тэраміскі і Буды. Кожнае салэцтва атрымае тэлефон, даступны ўсім жыхарам. На жаль, у гэтыя вёскі не завітае водаправод. План гаворыць аб неабходнасці пабудовы сядзібных водаправодаў.

Мяркуецца паклікаць у Белавежы кватэрны кааператыў.

Надалей будуць пашырацца добраўпарадкаваныя раёны, будзе больш газонаў і кветнікаў, дрэўцаў, кустоў, разбудуецца „малая архітэктура".

Крыху менш багаты ў намеры план у сферы гандлю і паслуг. Разбудаваная і мадэрнізаваная коштам каля 30 млн. зл. каўбасная ўжо здадзена ў карыстанне на пачатку 1986 г. ГС у Белавежы цяпер узгадняе справу пабудовы новага гандлёвага павільёна. Мяркуецца палепшыць забеспячэнне крамаў большай колькасцю тавараў, павялічыць колькасць пунктаў паслуг, удасканаліць базу скупкі, захоўвання і ўступнай апрацоўкі ягад, грыбоў і арэхаў.

Больш сур'ёзныя і напружаныя планы мае асвета і выхаванне. Ужо ў ліпені г.г. пачынаецца рамонт і разбудова пачатковай школы. На школьным пляцы вырасце новы двухпавярховы будынак і спартыўная зала. Пабудуюцца гаспадарчыя будынкі для сем'яў, якія жывуць пры адбудаваным дзетсадзе. Адначасова закончыцца добраўпарадкаванне наваколля, уладжанне і аснашчэнне пляца для дзіцячых гульняў. Настаўнікі атрымаюць 3 кватэры ў новым будаўніцтве і столькі ж з выкупу ад індывідуальных уласнікаў.

Культура і мастацтва таксама ставіць сабе сур'ёзныя заданні. У 1987 г. плануецца закончыць рамонт і мадэрнізацыю дома культуры, у якім будзе функцыяніраваць кіно, гмінны асяродак культуры і бібліятэка. Упарадкуецца наваколле клубаў у Пагарэльцах і Падалянах. Наладзіцца пляц для дзіцячых гульняў і пляцоўкі для футбола і валейбола. У цэнтры Белавежы пачнецца пабудова амфітэатра. Адрамантуецца колішні дом пуцявога абходчыка ў Крыжах і прызначыцца яго на Дом шлюбаў. Створыцца таксама карцінную галерэю, на якой будуць дэманстравацца карціны, намаляваныя падчас белавежскіх мастацкіх пленераў. Збудуецца супольны бібліятэчны цэнтр з чытальняй.

Не менш цікавыя планы намечаны ў сферы спорту і турыстыкі. Мае закончыцца рамонт і ўладкаванне гміннай спартыўнай пляцоўкі ў Белавежы. Там жа збудуецца абшырны сацыяльны павільён. Закончыцца таксама пабудова крытага басейна для плавання, пляцоўкі для малой гульні і мадэрнізацыя ціра ў Лясным тэхнікуме. Спартыўныя пляцоўкі пабудуюцца ў Тэраміскіх, Пагарэльцах і Падалянах. У Грудках жа ўладкуецца месца для суботне-нядзельнага адпачынку для жыхароў Белавежы і ваколіц. У цэнтры Белавежы будзе пабудаваны адкрыты басейн для плавання, адначасова будзе абмяркоўвацца магчымасць стварэння вадасховішча паміж старым і новым рэчышчамі Нараўкі з прызначэннем яго на спартыўна-гаспадарчыя мэты. Закончацца рамонты гасцініцы ў Палацовым парку і запаведніка (паказнога) зуброў. Будуць вызначаны новыя турысцкія шляхі і адрамантаваны раней вызначаныя, асабліва „Рэбры зубра".



**Начальнік Белавежскай гміны мгр Яўген Паўлючук з новымі аб'ектамі трапляе ў дзесятку на мішэні грамадскіх запатрабаванняў.**

Грамадская апека ўзбагаціцца домам для старых людзей (на 60 месцаў). Ён будзе знаходзіцца ў зараз рамантаваных будынках пасля дзяржаўнага дома дзіцяці. Пры доме створыцца парк і агародчыкі.

Гмінны план прадбачвае яшчэ шмат іншых заданняў, мо менш важных, але іх вырашэнне таксама значна палепшыць жыццё жыхароў цэлай гміны.

**П. Байко**

Фота А. Дамашэвіча

(Працяг са стар. 1)

# ПАМЯЦЬ АБ ГРАМАДЗЕ

цыя, на якой было абмеркавана ўтварэнне масавай легальнай арганізацыі — Грамады і акрэслена яе праграма змагання за нацыянальна-сацыяльнае вызваленне Заходняй Беларусі. Фотарэпрадукцыі знаёмяць з удзельнікамі канферэнцыі — вядомымі дзеячамі рэвалюцыйнага руху. На выстаўцы экспануюцца арыгінальныя экземпляры беларускіх газет з 1925-1926 гадоў, якія выдаваліся ў Вільні: „Голас працы", „Наша праўда", „Праца", „Думка працы", „Воля працы" „Сіла працы", „Наша справа" і сатырычны часопіс „Маланка". Ёсць таксама архіўныя дакументы дзейнасці Грамады і яе разгрому санацыйным урадам. Паказаны факты правакацыі на павятовым з'ездзе ў Старым Беразове 5 снежня 1926 года. Бачым рост ліку членаў БСРГ і іншыя гістарычныя факты з нацыянальна-рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

Варта пазнаёміцца з гэтым перыядам у гісторыі змагання нашых бацькоў і дзядоў. Выстаўка будзе адкрыта на працягу трох месяцаў да кастрычніка 1986 г. Музей у Бельску працуе штодзённа (апрача панядзелкаў) у гадз. 10.00-17.00.

Запрашаем!

**Ян Мордань**

# ХРОНІКА

6.06.86 г. адбылося пасяджэнне Прэзідыума Праўлення аддзела БГКТ у Дуброве Беластоцкай, на якім абмеркавалася арганізацыя беларускага фэстыну ў Хілімонах.

7.06.86 г. „БГКТ прапануе" — гэтак называўся беларускі дзень у святкаваннях „Дзён Бельска Падляшскага". У гэтым дні адбыліся аўтарскія сустрэчы В. Шведа і Я. Чыквіна са школьнікамі, была наладжана выстаўка малюнкаў вучняў пачатковых школ, адбыўся канцэрт беларускага хору з Гайнаўкі і выступленне калектыву „Парнас" з Бельска.

7.06.86 г. Гайнаўскі хор выступаў у Орлі з багатым і цікавым канцэртам.

8.06.86 г. Адбылося пленарнае пасяджэнне Грамадскага камітэта пабудовы музея помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы.

10.06.86 г. На пасяджэнні Прэзідыум Праўлення аддзела БГКТ у Гайнаўцы прыняў рашэнне арганізаваць „Ноч Купалы" 6 ліпеня г.г. над Нараўкай у Грушках.

12.06.86 г. У гонар 30-годдзя БГКТ і „Нівы" адбыўся ўрачысты сход гуртка ў Кнышэвічах. Былі прыняты ў БГКТ новыя члены.

14.06.86 г. На запрашэнне арганізатараў перад удзельнікамі „Рэйду хімікаў" выступіў хор Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.

20.06.86 г. На супольным пасяджэнні Прэзідыумаў аддзелаў БГКТ у Гайнаўцы і Нараўцы абмяркоўваліся справы арганізавання „Ночы Купалы" над Нараўкай.

22.06.86 г. Беластоцкі і Гарадоцкі беларускія хоры выступілі з канцэртам для жыхароў Кляшчэляў. (вл)

## абпаленыя вайной

# ЛЁС ГРЫШЫ ШЫМАНЮКА

Калі мы з інжынерам Барыславам Рудкоўскім праехалі вёскаю Паграбы, што ў Кляшчэлеўскай гміне, дык убачылі вялікія вязы. На двары стаяла сонечная пагода, вакол было зялёна, цёпла. Мы спыніліся і да нас падыйшоў чалавек, які запытаў, адкуль мы і чаго мы. Мы адказалі яму, што — стражнікі прыроды, а я ў дадатак і карэспандэнт „Нівы". Тады чалавек той пачаў гаварыць пра сваё: у мяне, кажа, вялікая прэтэнзія да ЗБоВіДу ў Кляшчэлях за тое, што не хоча прыняць мяне ў свае члены.

І ён расказаў, што нарадзіўся ў Паграбах 9 красавіка 1923 года, і быў яшчэ зусім маладым, усяго семнаццацігадовым хлопцам, калі пачалася другая сусветная вайна. У 1940 годзе паступіў вучыцца ў фабрычна-завадское вучылішча і выехаў аж у Расію, у горад Тула, дзе працаваў на будаўніцтве. Тады якраз і пачалася тая страшная вайна. Пад канец ліпеня ўзялі яго на франтавыя работы, а шостага кастрычніка ўступілі туды ўжо немцы, пабралі ўсіх у палон і павезлі ў Оршу, у лагер. Прабыў у ім каля месяца, і потым перавезлі ў Мінск, а з Мінска — у Генеральнае губернатарства, у польскія Сухажэбры, што за Седльцамі. Там навалілася на ўсіх эпідэмія тыфу, штодзень памірала ад яго каля паўтары сотні палонных. Тыя, што выносілі трупы, вынеслі і яго,



**На здымку: Грыша Шыманюк у маладосці.**

 

# Жыць шчасцем іншых



За Аннай Снарскай ужо 81 год жыцця. І жыццё гэтае амаль поўнасцю прысвечана іншым, перш за ўсё выхаванню некалькіх пакаленняў малых дзяўчатак і хлопчыкаў, прывіванню ім замілавання да ўсяго роднага і сэрцу блізкага. Яна з тых рэдкіх прадстаўнікоў чалавечага роду, якія патрапяць цешыцца шчасцем іншых, якія таксама шчаслівыя, калі дасягнулі шчасця тыя людзі, што давялося сустрэць ім на сваім жыццёвым шляху. Такой менавіта здалася мне заслужаная настаўніца — пенсіянерка, пані Анна.

Пазнаёміўся я з ёю на прадвесні 1986 года. Раней, на жаль, яе я не ведаў. Настаўніца-пенсіянерка, адзінокая жанчына і адначасова духоўная маці сотняў вясковых жэўжыкаў і нясмелых дзяўчанятак, якія пазней сталі інжынерамі, магістрамі, дактарамі... Гэта яе сямейка.

Сустрэліся мы ў вёсцы Гаранды, што ў Нараўскай гміне. Там яна нарадзілася ў 1905 годзе і там рашыла закончыць свае дні.

— Тады наша вёсачка называлася яшчэ Гарадоўшчынай, — гаворыць яна, Анна Снарская, — а мой бацька, Сямён...

Яна тут абарвала свой сказ, а яе стомленыя вочы павандравалі ў акно, за якім па высокім небе плылі бела-шэрыя воблакі.

— ...гэта быў чыстасумленны чалавек і шчыры беларус, — прадоўжыла яна і ўжо затым дабавіла, што з сямейных падзелаў яе бацьку прыпала ледзь чацвяртушка зямлі.

— Сцепаніда, — звярнуўся ён да свае маладзенькай жонкі, — на гэтай гаспадарцы нічога мы не даб'емся. Давай паедзем у горад. Мяне прымуць усюды, дзе я захачу!

Гэтая Сямёнава ўпэўненасць вынікала з таго, што ён ваенную службу праходзіў у царскай лейбгвардыі і за сумленную службу ўзнагародзілі яго граматай, якая давала яму права паступіць на кожную дзяржаўную работу. Сямён Снарскі выбраў чыгунку, стаў рабочым Варшаўска-Маскоўскай жалезнай дарогі і разам з сям'ёю перасяліўся ў Варшаву. Гэта было для яго вялікае грамадскае павышэнне, бо чыгуначнікі ў пачатку нашага стагоддзя лічыліся рабочай арыстакратыяй.

Маленькай Нюні, а будучай настаўніцы Анне Снарскай, пайшоў тады ўжо трэці гадок. Так што першыя яе дзіцячыя ўспаміны адносяцца да Варшавы, да пачатковай рускай школы, у якой не надта ж доўга давялося ёй вучыцца, бо неўзабаве, у 1914 годзе, пачалася вайна і Сямёна Снарскага накіравалі ў Маскву.

— Там я працягвала сваю вучобу, — расказвае заслужаная настаўніца. — А ў свабодны час бегала я да бацькі, часценька насіла яму абеды, бо з ядою ў Маскве было ўсё горш. Асабліва любіла я наведваць маскоўскія вакзалы: Казанскі, Мікалаеўскі і Аляксандраўскі. Спазнала я ўсе іх закуткі. Калі вочы закрыю, дык і цяпер бачу гэтыя натоўпы людзей, якія там безупынку снуюцца... Вы можа былі ў Маскве? — нечакана звярнулася яна да мяне. — Дык як: стаяць яшчэ там гэтыя вакзалы? У вайну іх не разбурылі?.. На жаль, не давядзецца мне ўжо пабачыць гэтыя знаёмыя і сэрцу майму блізкія старонкі, — уздыхнула яна. — Асабліва хацелася б пагуляць мне ў Сакольніцкім парку. Там, на Сакольніках, памяшчалася гімназія Абразцовай, у якой я вучылася. Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі яе ў 1919 годзе перайменавалі на Савецкую працоўную школу другой ступені.

Гэта быў найбольш бурлівы і найбольш павучальны перыяд у гісторыі чалавецтва і ў жыцці Анны Снарскай. Апынулася яна ў самым віры рэвалюцыйных падзей і, нягледзячы на забарону бацькоў, паддавалася яго парывам. Разам з сяброўкамі па гімназіі ўдзельнічала ў розных мітынгах і паходах, сачыла за змаганнем Чырвонай Гвардыі з юнкерамі...

Але жыць у Маскве было ўсё цяжэй. За звычайным хлебам даводзілася стаяць цэлыя ночы ў даўжэзных чэргах. І бацька ў маі 1922 года рашыў вяртацца на радзіму.

— Мне яшчэ аставалася месяц часу да апошніх экзаменаў, каб закончыць гімназію. І я не ведала, што мне рабіць. Настаўнікі і маскоўскія сябры нагаварвалі, каб я аставалася. Я, аднак, не адважылася. Дырэктар даў мне паперу, што я паспяхова прайшла поўны курс навукі ў гімназіі, толькі не прыступіла да экзаменаў на атэстат сталасці...

З гэтым яна, разам з бацькамі і трыма сёстрамі, вярнулася ў свае родныя Гаранды. Нашчасце, дзедава хата яшчэ стаяла і бацькоўская чацвяртушка поля зарастала хмызняком.

Анна, выпускніца вядомай маскоўскай гімназіі, спадзявалася знайсці нейкі занятак для разумовай працы. То ж была яна, бадай што, першай дзяўчынай на ўсё нараўскае наваколле, якая атрымала поўную сярэднюю адукацыю. Тады ж рэдка хто ўмеў пісаць і чытаць у нашых вёсках. На жаль, ніхто яе ведаў не патрабаваў.

Каб неяк пражыць, давялося разам з сёстрамі ды іншымі вясковымі дзяўчатамі хадзіць у Жэдненскае лясніцтва на пасадку лесу, на ачыстку маладняку. Анна не надта спраўлялася з гэтай цяжкай працай. Іншыя сяброўкі ад дзіцячых год прывучыліся да пастаяннай нагрузкі ў рабоце, а яна ж бегала па школах, не закаляла сваіх сялянскіх сіл.

Тады на ўласным вопыце спазнала яна невынослівую горыч сялянскага быту, а разбуджаная ў гімназіі прага ведаў дазволіла ёй ацаніць мужыцкую галечу з класавай пазіцыі. *„Ад веку мы спалі і нас разбудзілі...“* — з поўным перакананнем паўтарала яна словы грамадаўскага гімна.

Быў гэта таксама перыяд яе нацыянальнага самаўсведамлення. Спазнала яна прыгажосць і багацце роднай культуры і адчула, што ўсё гэта тысячамі карэнняў прарастае яе сэрца. Яна сама любіла спяваць ды яшчэ болей любіла слухаць, як спяваюць іншыя. А песня спадарожнічала і радасці і бядзе сялянскай.

Яе веды і яе адукацыя спатрэбіліся толькі позняй восенню 1939 года, калі на гэтай тэрыторыі ўстанавілася Савецкая ўлада. На працягу двух школьных гадоў — 1939/40 і 1940/41 — вяла яна чатырохкласную школу ў суседніх Адрынках. З гэтай вёскай і з гэтай школай спалучаецца ўся працоўная біяграфія Анны Снарскай, амаль паўстагоддзя прысвечаная дзецям і школе.

Летам 1944 года пагналі адсюль немцаў. Адрадзілася беларуская школа ў Адрынках. Анну Снарскую назначылі яе загадчыцай, а пазней і дырэктарам. І пакуль яна там працавала, датуль дзеці з навакольных вёсак засвойвалі асновы роднай літаратурнай мовы, спазнавалі яе прыгажосць, багацце беларускай літаратурнай спадчыны. Ды не толькі на ўроках. Пад наглядам Анны Снарскай у Адрынках разгарнулася мастацкая самадзейнасць. Усё моднае ў гэты час, што ў нашых вёсках прывівала БГКТ — і „Мікітаў лапаць“, і „Пярэстая красуля“ і „Конская кніжка“, і „Лявоніха“ ды ўсё іншае, — не абмінула і школы ў Адрынках. Яе кіраўнічка, пані Анна Снарская, патрапіла яшчэ заахвоціць тутэйшых гаспадароў да вялікага грамадскага пачыну, каб супольнымі сіламі пабудаваць у вёсцы прасторную і прыгожую школу-тысячагодку...

— На жаль, — цяжка ўздыхае настаўніца-пенсіянерка, — гэтую школу ў 1980 годзе закрылі, і дзяцей цяпер возяць у Нарву.

З гэтым ёй цяжка прымірыцца. Без хвалявання і болю не можа яна глядзець, як знішчаецца яе праца.

— Там маглі б вучыцца хаця б першыя чатыры класы, — кажа, а яе твар, парэзаны глыбокімі маршчынамі, дрыжыць ад хвалявання.

Разумею яе. З гэтай школай звязаны ўсе яе летуценні. Тут Анна Снарская не толькі выпраўляла ў свет чарговыя пакаленні вясковых дзяцей, але таксама ў гэтай адрыноцкай школе давала працоўную пуцёўку ў самастойнае жыццё многім маладым настаўнікам.

— Шмат маіх выпускнікоў, — з гордасцю адзначае яна, — працягвала навуку ў беларускіх ліцэях, што ў Гайнаўцы і Бельску. Я часта запрашала да сябе на сустрэчу з дзецьмі тадышніх дырэктараў гэтых ліцэяў: Анастасію Тропак і Міколу Гайдука.

Ёсць чым ганарыцца гэтай скромнай жанчыне, хаця яна вельмі ж неахвотна дзялілася са мною ўласнымі перажываннямі. Жыць шчасцем іншых і самой аставацца ў цяню гэтага шчасця — вось яе пуцяводны дэвіз.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

---

жывога, і так ён застаўся жыць.

Знайшліся добрыя людзі, пашкадавалі хлопца. З могілак дабраўся ён у вёску Глубля, што ў семнаццаці кіламетрах ад Седльцаў. Быў, як шкілет, адны скура і косці. Узяў яго да сябе гаспадар Леапольд Чарноцкі, у якога пражыў да сорак чацвертага года, і ў жніўні таго ж года, калі прыйшло вызваленне, вярнуўся ён дадому, у свае Паграбы. А гэты Чарноцкі шмат дапамог яму, Грышы Шыманюку, вырабіў яму адпаведныя паперы.

Сведкамі яго лёсу могуць быць Міхась Адамец з Сакоў каля Кляшчэляў, Васіль Калішэвіч з Кляшчэляў, Яўген Наскові з Сухавольцаў і іншыя. Вялікая просьба да іх, каб далі неяк знаць пра сябе і захацелі дапамагчы гэтым Грышу Шыманюку паступіць у ЗБоВіД. Справа ў тым, што аніякія дакументы не захаваліся ў Шыманюка пасля такіх ваенных прыгодаў яны і не маглі захавацца, бо за іх магла быць толькі адна кара ад акупантаў — куля! Прытым Шыманюк працаваў у рабочых батальёнах Савецкай Арміі і архівы гэтых батальёнаў не ўцалелі, яны былі спалены пры адступленні.

Грыша Шыманюк нямала перажыў і вынес пакут. У нямецкіх лагерах трымалі ўсіх у чыстым полі, абгароджаным калючым дротам, на вялікім марозе і на вятры, а ежай былі буракі, і яшчэ нейкая гідасць, а ўсё замёрзлае. Выжыў перш за ўсё таму, што быў малады, не хворы, вынослівы. Ну, і дзякуючы добрым людзям, якія яму дапамаглі.

Яго ўклад у вайну, у перамогу яе канец заслугоўвае таго, каб стаў ён членам ЗБоВіДу.

**Андрэй Гаўрылюк**

---




Wiersze poetów radzieckich. (M.in. Ryhora Baradulina — „O jedno proszę...” i Anatola Hraczanikawa — „To jeszcze nie noc”. Przekład: T. Chróścielewski i R. Gorzelski) „Fakty” (Bydgoszcz), R. 1985, NR 45, s. 9.

Сергей Серpredicted Серграчов, Музей народной архитектуры и быта Белоруссии. „Acta Scansenologica” (Sanok), R. 1985 (T. 3), s. 169-187.

Piotr Stępniak, Na skróty do Brześcia. (O budowie gazociągu Białoruś—Polska). „Polityka” (W-wa), R. 1985, Nr 47, s. 13—14.

(T.R.) — Pamięci Zygmunta Glogera. Sesja krajoznawcza w Tykocinie i Białymstoku. „Gościniec” (W-wa), R. 1986, Nr 2, s. 6.

Krzysztof Wolfram, Narwiański Park Krajoznawczy. „Gościniec” (W-wa), R. 1986, Nr 2, s. 14—15.

Marian Wiśniewski, Czeremcha tętniąca pracą. „Życie Partii” (W-wa), R. 1985, Nr 22, s. 20—21.




 

## Лепей будзе...

Калі трэба дзесьці заехаць, чалавек думае: „Абы даехаць!" Ці сядзець будзеш, ці стаяць на аднойназе — няважна! А калі ёсць магчымасць заехаць добра і хутка — тым лепш. А цяпер такія магчымасці ёсць, асабліва ў ПКСе. Паглядзіце, якія выгадныя расклады руху аўтобусаў. Новыя шляхі паявіліся год таму назад. Цяпер паправілі ўсе расклады, павесілі на новых табліцах, апублікавалі ў прэсе...

Я так сабе распланавала камандзіроўку, каб патраціць як найменш часу на дарогу. Расклад аўтобусаў — надзвычайны. Хопіць устаць даволі рана, зайсці на аўтобусны вакзал і... чакаць. Час ад часу скажуць, што „аўтобус не вярнуўся яшчэ з трасы", але „можа будзе..."

Набліжаецца пятая гадзіна. Халодная чэрвеньская раніца. На плашчадцы стаіць жанчына з Семяноўкі.

— Ужо тыдзень не было ранішняга аўтобуса з Беластока ў Нараўку праз Семяноўку. А калі хто, напрыклад, працуе на пабудове вадасховішча ў Бандарах, ці дзе — пяшком дрыпае. Нішто не садзейнічае так добра здароўю, як 5-7-кіламетровая ранішняя прагулка на работу, праўда?..

Горад ажывае. Ля касаў натоўп. Чэргі закручаны ў каўбаскі. Я іду ў інфармацыю.

— Будзе сёння гэты аўтобус?

— Не будзе. Да адклікання.

— Значыцца, няма і не будзе. Калі не хочаце паведаміць пасажыраў у газеце, павесьце хаця б картачку на стаўбе.

— А вы з гэтым да кіраўніка станцыі ідзіце...

„Яшчэ паўтары гадзіны магу пачакаць, — думаю. — Хто рана ўстае, таму Бог не шкадуе.."

— Не будзе аўтобуса. Няма каму ездзіць! — і кіраўнік паслаў мяне да „больш кампетэнтных".

Намеснік кіраўніка аддзела распараджэння машынным саставам Ян Керсноўскі высвятліў найважнейшыя праблемы беластоцкага ПКСу.

— Сёння не вядома, ці паедзе аўтобус на гэтую трасу а 14.30. Няма шафёра. Калі які-небудзь яго калега, у якога будзе час, згодзіцца паехаць гэтым курсам, аўтобус знойдзецца. Штодзень 30-40 аўтобусаў стаіць у варштатах. Даходзяць да таго адсутнасць з-за хваробы і іншыя адсутнасці шафёраў. Выбіраем меншае зло — адклікаем тыя аўтобусы, на шляхах якіх менш пасажыраў даязджае на работу. Вось колькі аўтобусаў мы вымушаны былі адмяніць: 20 чэрвеня на 1720 курсаў — 47 адклікалі, 21 чэрвеня — на 1040 — 9; 22, нядзеля — на 1032 адкліканы 41, 23 чэрвеня — 66 аўтобусаў, 24 чэрвеня — 58, 25 чэрвеня (чацвер) — на 1720 — 94 аўтобусы... Але справы паляпшаюцца. Вучыцца цяпер у нас 16 маладых шафёраў. Будзе лепш...

Аднак пакуль што — не варта рызыкаваць і разлічваць на ПКС. Лепш ужо ехаць, абы заехаць, нават акружной дарогай.

Ездзеш, плаціш, здароўе траціш, але ж усё гэта жыццё. Хто яшчэ не прывык, няхай прывыкне. Чалавек, як аўтобус, таксама псуецца. Але разумны чалавек не хваліцца публічна сваімі дальнабойнымі планамі, калі лячыцца трэба.

**Міра Лукша**

## Два пакаленні



Уладзімір Корч на сваім падворку.

Уладзімір Корч з Тафілаўцаў ужо пенсіянер. Але ён любіць працу ў гаспадарцы, як і раней. На прысядзібным участку ў яго нямнога збожжа. Але яму хочацца абмалаціць яго так, каб не змарнавалася ні зернятка, ні саломка. У. Корч ужо шмат год сакратаром пярвічнай партыйнай арганізацыі ў Тафілаўцах. Гэта дзелавы, шанаваны людзьмі чалавек. Яго сын Коля — спецыяліст па жывёлагадоўлі якіх мала. Ён пераняў працавітасць і саліднасць ад бацькі. Яго здымак памешчаны нават на выстаўцы ў Беластоку. Цяпер Коля і яго жонка Марыся хочуць павялічыць сваю гаспадарку на дадатковыя 3 гектары. Думаю, што гмінныя ўлады пойдуць гэтым маладым спецыялістам на руку. Харчоў у нашай краіне і за яе межамі яшчэ не замнога.

**Мар'я Пень**

## Родныя краявіды



У ціхім закутку Сямяціч. Графіка У. Петрука.

## Шляхам гадоў

### НАВАЛА

Неўзабаве пасля смерці вялікіх князёў літоўскіх Войшалка (у 1267 г.) і Шварна (каля 1270 г.) памёр князь валынскі Васілька Данілавіч (каля 1271 г.). У выніку гэтага наступілі значныя змены ў расстаноўцы сіл на гэтым абшары Еўропы. На першы план высоўваецца энергічны і ваяўнічы князь галіцкі Леў Данілавіч, які спачатку намагаецца захапіць пасад вялікага князя літоўскага ў Навагрудку. Аднак знаць і грамадства Вялікага княства Літоўскага, аб'яднаныя князем Трайдэнам выступілі супроць яго. У кровапралітных змаганнях загінулі тры браты Трайдэна, але Леў мусіў зрачыся сваіх намераў стаць вялікім князем літоўскім. Ён займае Шварнавы ўладанні з Халмом і пераймае не толькі бацькаўскую сталіцу, але і яго палітыку, накіраваную на „збіранне" пад сваёй уладай усходнеславянскіх зямель. У Вялікім княстве Літоўскім улада пераходзіць у рукі таксама вельмі актыўнага і амбітнага князя Трайдэна, які, умацаваўшыся на вялікакнястве ў Навагрудку, таксама працягваў палітыку сваіх папярэднікаў, нацэленую на ўмацаванне дзяржавы ў яе межах з апошніх год панавання Міндоўга і Войшалка. У яе складзе былі землі Гарадзенскага княства, але тэрыторыю Дарагічынскага княства пасля смерці Шварна захапіў Леў Данілавіч, а Берасцейскага — Васілька Раманавіч са сваім сынам і адзіным спадчыннікам Уладзімірам.

Паміж гэтымі трыма сіламі адразу ўспыхнула зацятая варожасць. Трайдэн, умела ўмацоўваючы ўнутраную еднасць дзяржавы і ўдала адбіваючы націск на Вялікае княства Літоўскае крыжакоў, не забываў таксама пра землі Дарагічынскую і Берасцейскую. Прыступае да гэтага належна падрыхтаваўшыся і стварыўшы выгодныя падступы. Наладжвае прыязныя адносіны з князем Львом Данілавічам („шлючи многы дары межи собою" — падкрэслівае Галіцка-Валынскі летапіс), да якога з непрыязню і падазронасцю ставіліся князі валынскія Васілька і Уладзімір. Затым толькі Трайдэн намагаецца адбіць у іх Берасцейшчыну. Разгараецца зацяжная вайна за паасобныя крэпасці і то са зменлівай удачай. Той жа летапіс заўважае: „...ваявалі ж невялікімі паходамі — Трайдэн пасылаў употайкі пешых вояў рабаваць зямлю Уладзіміра, а Уладзімір таксама пасылаў грабіць праціўніка. І так яны ваявалі ўвесь год".

Затым на бок Трайдэна становіцца Яцвягія. Але да князёў валынскіх прыхіляецца Леў Данілавіч і далучае свае войскі да іхняга паходу супраць Яцвягіі. Галіцка-валынскім войскам удалося захапіць Зліну (яцвяжскую зямлю паміж рэкамі Элкам і Бебжай — М.Г.). Трайдэн не застаецца ў даўгу. Ён падпарадкоўвае сваёй уладзе ўсю Яцвягію, а сталіцу Зліны — старажытнае яцвяжскае ўмацаванае паселішча Рай (сённяшні Райгруд — М.Г.) пераўтварае ў моцную крэпасць. Аднак на гэтым не спыняецца. Аддайма ж голас таму ж летапісу: „Затым Трайдэн, забыўшы пра дружбу са Львом, паслаў гарадзенцаў, каб захапілі Дарагічын. З імі быў таксама Трыд. Ён ведаў пра горад, як яго можна здабыць. Падкраліся яны ноччу і гэтак узялі Дарагічын на самы Вялікдзень ды перабілі ўсіх ад малога да вялікага". І такім чынам у 1274 годзе Дарагічынскае княства было вызвалена з-пад улады галіцкага князя і аб'яднана з Вялікім княствам Літоўскім.

Мабыць, на гэтым Трайдэн не спыніўся і пачаў рыхтавацца да вызвалення захопленай князямі валынскімі Берасцейшчыны і іншых зямель. Перапужаны галіцкі князь Леў Данілавіч кінуўся за дапамогай у Сарай да свайго пана — татарскага хана Меньгу-Тэміра. Львоў пасол на каленях падпоўз да яго і, падаючы багатыя падарункі, скардзіўся на ваяўнічае Вялікае княства Літоўскае, якое наважылася ўварвацца ад „ханскага улуса" (ханскай маёмасці) кавалак Пабужжа, і благаў „помочи у него на литву", — як сцвярджае той жа Галіцка-Валынскі летапіс.

Меньгу-Тэмір толькі на тое чакаў. Выслаў супраць Вялікага княства Літоўскага сваю армію на чале з ваяводам Ягурчынам і загадаў усім падпарадкаваным татарам рускім князям — валынскаму, луцкаму, бранскаму, смаленскаму і іншым — ісці разам вялікім паходам на Навагрудак: „Тогда бо бяху вси князи в воли татарской", — адзначае той жа летапіс.

Князі галіцка-валынскія, кіруючыся на злучэнне з татарамі каля Слуцка, ішлі „мимо Туро-

 

# Норкі ў Польшчы

У сувязі з існуючай патрэбай даследаваць паяўленне і геаграфічнае размяшчэнне двух гатункаў норак у Польшчы — нашай еўрапейскай (Mustela lutreola (L.) і чужога гатунку — норкі амерыканскай (Mustela vison Schreb), звяртаюся з просьбай да паважаных чытачоў „Нівы" памагчы мне сабраць інфармацыю аб гэтых звярках.

Названыя два гатункі норак, якія мяне цікавяць, з'яўляюцца драпежнымі млекакормячымі з сям'і ласіцаватых (Mustelidae).




Малюнак 1. Галава норкі амерыканскай (а) і тхара звычайнага (б).

Па велічыні цела яны нагадваюць агульнавядомага звычайнага тхара, а адрозніваюцца ад яго трошкі даўжэйшым хвастом і афарбоўкай галавы (гл. малюнак 1).

Амерыканская норка, якую гадавалі ў Канадзе ўжо ў 1873 г., жыве на паўночна-амерыканскім кантыненце. У Еўропу яна была завезена ў 1926 годзе (у Германію).

Першыя спробы індывідуальнай гадоўлі амерыканскай норкі ў Польшчы былі зроблены ў 1928 годзе, а гадоўля на фермах начала развівацца толькі ад 1953 года. Інтэнсіўнае развіццё гадоўлі норкі на фермах стварала магчымасці для ўцёкаў звяркоў і пранікання іх у натуральнае асяроддзе.

Паспяховае развіццё гадоўлі амерыканскай норкі ў Еўропе заахвоціла вучоных да яе рассялення, гэта значыць, да інтрадукцыі ў натуральных умовах. Пачынаючы ад 1933 года ў Савецкім Саюзе амерыканская норка рассялялася па значнай тэрыторыі. Выпушчана было ў 198 месцах 20.500 звяркоў. Такім чынам быў закладзены яе новы арэал на прасторах, дзе яна раней не выступала.

Пачатковым жыхаром еўрапейскага кантыненту была наша еўрапейская норка, арэал якой вельмі выразна зменшыўся за апошнія 100 гадоў. На частцы арэалу еўрапейскай норкі з пададзенай вышэй колькасці выпушчана было 5.000 штук амерыканскіх норак. Такім чынам дапушчана было сутыкненне двух гатункаў норак — нашай еўрапейскай і новага гатунку — амерыканскай норкі. Абедзве норкі прадстаўляюць сабою пару падобных гатункаў з вельмі блізкімі патрэбамі да асяроддзя, звязанымі з наземна-водным спосабам жыцця, але якія адрозніваюцца толькі нязначнымі рысамі будовы чэрапа і афарбоўкі футра.

Агульны тон афарбоўкі футра ў еўрапейскай норкі звычайна каштанаваты, а канец мордкі — верхняя і ніжняя губы разам з падбародкам — белыя (мал. 2). У адрозненне ад нашай амерыканская норка мае цёмна-карычневае футра з чорным адценнем, а белыя ў яе толькі ніжняя губа з падбародкам (мал. 1а).

Як вынікае з нашага ранейшага даследавання „Przegląd Zoologiczny", том 27, сшытак 1, стар. 87-99 1983), ахопленая поўнай аховай еўрапейская норка апошні раз была сцверджана ў Польшчы ў 1926 годзе. Цяпер няма інфармацыі аб яе паяўленні ў нашай краіне. Вынікі навейшых анкетных даследаванняў над паяўленнем і размяшчэннем еўрапейскай норкі ў СССР даюць падставы меркаваць, што гэты гатунак можа яшчэ сустракацца і ў нас на Сувальшчыне. Але ад 1954 года і па сённяшні дзень часта здараюцца выпадкі бачання (асабліва ў



Малюнак 2. Норка еўрапейская.

паўночна-ўсходняй Польшчы) і забівання амерыканскіх норак, якія жывуць на волі. Гэта звяркі, якія дзякуючы натуральнаму распаўсюджванню праніклі на тэрыторыю Польшчы з суседняй Беларусі, дзе іх рассяляюць ад 1958 года.

Мэтай маіх даследаванняў з'яўляецца, з аднаго боку, аднатаванне перамен у часе, якія адбываюцца ў працэсе натуральнага рассялення амерыканскай норкі ў Польшчы, а з другога боку, высненне, ці сёння яшчэ не сустракаецца ў нашай краіне еўрапейская норка. Вынікі гэтых даследаванняў дадуць магчымасць акрэсліць прававы статус амерыканскай норкі ў Польшчы і стварыць лепшую ахову гінучай еўрапейскай норцы.

Як вынікае з экалагічнай літаратуры, гатункі звяроў, разведзеныя шляхам штучных пасяленняў, г.зн. інтрадукцыі, бываюць больш экспансіўныя і могуць стаць пагрозай для мясцовых гатункаў. Вучоныя мяркуюць, што падобная з'ява магла выступіць і ў адносінах да норак.

У сувязі з вышэй сказаным, звяртаюся да паважаных чытачоў „Нівы" з гарачым заклікам прысылаць на мой адрас усялякія весткі аб норках, якіх вам удалося сустрэць у натуральных умовах. Цікавяць мяне таксама і мёртвыя звяркі гэтага гатунку, якіх давялося вам знайсці ці якія былі застрэлены ў час паляванія на андатраў (піжмакоў). Асабліва ўдзячны быў бы за прысланне чэрапаў, галоў ці цэлага цела норак. Прысылаць іх трэба ў фоліевых мяшэчках. Наша ўстанова звяртае кошты перасылкі і апакоўкі згодна з існуючымі паштовымі аплатамі. Калі хто-небудзь з чытачоў калекцыяніруе чэрапы як паляўнічы здабытак, вельмі прашу паведаміць аб іх існаванні і даць мне магчымасць даследаваць іх, а таксама зрабіць навуковую дакументацыю (памеры, здымкі). Абяцаю звяртаць экспанаты непашкоджанымі. Усялякія весткі прашу прысылаць па адрасу:

Dr Andrzej L. Ruprecht, Zakład Badania Ssaków PAN. 17-230 Białowieża, tel. 12-278 od godz. 7.30 do 15.30.

**Анджэй Рупрэхт**

Фота Я. Вуйціка, А. Рупрэхта.

---

во" і прымусілі пайсці ў паход таксама князёў пінскіх і тураўскіх, хоць тыя і былі ў прыязных адносінах з вялікім князем літоўскім.

Стаялі траскучыя маразы. Насельніцтва паўднёвых беларускіх зямель разбягалася, дзе вочы глядзяць. А скрыцца было цяжка, бо аснову захопніцкай арміі складалі воі з суседніх зямель — валынскай, бранскай, смаленскай — ім былі вядомы ўсе схованкі. Там, кудой прайшлі захопнікі, заставаліся адны трупы ды пажарышчы. Здавалася, што гэтая навала перавяжа ў нявольнічыя путы, абрабуе начыста і зніштожыць усё Вялікае княства Літоўскае. Але яно геройна змагалася: зацята, на смерць і жыццё, біліся дружыны, бараніліся крэпасці. Гэта пацвярджаецца ў летапісах — нават ва ўсхваляючым пад неба ўсе ўчынкі галіцка-валынскіх князёў Галіцка-Валынскім летапісе знаходзім адлюстраванне гэтай геройчнай абароны. Незлічоныя полчышчы наезнікаў разрабавалі прыгарады сталіцы Вялікага княства Літоўскага, але не здолелі здабыць магутную навагрудскую крэпасць. Яны перасварыліся паміж сабой з-за нарабаванага і разбрыліся ў розныя кірункі. На разрозненыя іхныя атрады ўсё мацней насядалі дружыны вялікага князя Трайдэна і мясцовыя народныя мсціўцы, пакуль не ачысцілі ад іх зямель Вялікага княства Літоўскага.

Пад іх націскам татарская арда і дружыны Льва Данілавіча адступалі праз Панароўе і Пабужжа. Хоць князю галіцкаму зноў удалося захапіць Дарагічынскае княства, паставіць сваю „заставу" ў горадзе Дарагічыне, але Дарагічынская зямля была страшэнна абязлюднена і абрабавана ардой Меньгу-Тэміра. Праўда, не лепшы лёс спаткаў і валынска-галіцкія землі, кудою вярталіся татары ў свае стэпы.

На граніцах Вялікага княства Літоўскага з князямі галіцка-валынскімі, бранскімі, смаленскімі і іншымі, якія знаходзіліся тады „ў волі татарскай", наступіла хвілінная перадышка. Аднак абодва бакі не драмалі.

Вялікае княства Літоўскае паспешліва адбудоўвала разбураныя і ўмацавала ўцалелыя крэпасці, узводзіла новыя па ўсяму пагранiччы. Удалая абарона ад татарска-рускага нашэсця ўмацавала яго аўтарытэт у суседзяў. Пад націскам крыжакоў вялікая колькасць прусаў з Памор'я шукала прытулку ў Вялікім княстве Літоўскім. Князь Трайдэн прыняў іх з адкрытымі рукамі, пасяліў і надзяліў зямлёй у Гарадзенскім і Слонімскім княствах — на самай мяжы з уладаннямі Льва Данілавіча і Уладзіміра Васількавіча. Значыць, таксама і на тэрыторыі сённяшняй Беласточчыны, на яе паўднёва-ўсходняй частцы. Яны выдатна разбудавалі і ўмацавалі Горадню і іншыя крэпасці. Такім чынам Трайдэн узмоцніў паўднёвыя граніцы свае дзяржавы і стварыў добрыя прадумовы да вызвалення Дарагічынскага і Берасцейскага княстваў.

За падрыхтоўкай Трайдэна пільна сачылі Леў і Уладзімір. Яны знячэўку ўдарылі на Слонімскае княства і захапілі ды вывелі ў свае землі частку прусаў. Але на гэтым не спыніліся. Асабліва Уладзімір клапаціўся пра ўмацаванне свайго панавання на Берасцейшчыне. У 1276 г. па яго загаду каля Каменя, на беразе рэчкі Лясной, „муж хитр" Алекса ўзводзіць магутную мураваную абаронную вежу, якая і па сённяшні дзень з'яўляецца адным з найлепш захаваных помнікаў гатыцкай архітэктуры на беларускіх землях. Мабыць, такія ж, ці менш прэзентабельныя, умацаванні паўсталі ў іншых мясцовасцях па абодвух баках граніцы Вялікага княства Літоўскага, між іншым, новыя крэпасці ў Тыкоціне, Суражы, Свіслачы і іншых мясцовасцях.

Але гэты час будавання не трываў доўга.

**Мікола Гайдук**

---

# Нам адказваюць

Nawiązując do spraw poruszonych w wycinku prasowym „Kamu rynak" zamieszczonym w Waszym tygodniku z dnia 8 czerwca 1986 r. uprzejmie informuję, iż faktycznie Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska" w Bielku Podlaskim udostępniła część terenu targowicy przy ul. Żwirki i Wigury na zlokalizowanie cyrku w dniach 16—18 maja 1986 r.

Wspomniana targowica czynna jest tylko raz w tygodniu — w dni targowe — czwartki. W latach ubiegłych cyrk również lokalizowano na tej targowicy z uwagi, że jej powierzchnia w pełni zabezpieczała potrzeby i na cele targowe.

Nadmieniam, że na terenie Bielska Podlaskiego brak jest innego terenu do lokalizacji cyrku. Nie nadaje się również do tych celów wspomniany plac przy ul. Studziwodzkiej, gdyż nie jest wyrównany i utwardzony.

Uwzględniając zgłoszony wniosek, zwrócę uwagę Zarządowi Gminnej Spółdzielni „Samopomoc Chłopska" o lokalizowanie w przyszłości cyrku na tej targowicy w dniach, gdy jest nieczynna.

Bielsk Podlaski 1986-02-26.

Naczelnik Miasta Bielsk Podlaski
(—) inż. Jan Sadowski



 




Дарагое Сэрцайка, вось мне ўжо споўнілася 25 гадоў, я скончыла вышэйшую школу і ад восені пайду на працу. Усе гавораць, што я дзяўчына прыгожая і статная, мо так і ёсць. Але мушу табе прызнацца, што яшчэ ніколі я не мела ніякага хлопца. Некаторыя мне нават падабаліся, але каб з кім хадзіла, то не. І вось я пакрысе пачынаю непакоіцца: ці выйду я калі замуж? Здаецца, і хаджу ўсюды: і да сяброўак, і на розныя імяніны, а кожнае лета стараюся паехаць на нейкія канікулы з дзяўчатамі і хлопцамі, сваімі сябрамі. Бярэм з сабою палаткі, жывем на ўзлонні натуры. Многія з сяброўак знаходзяць сабе хлопцаў якраз летам, а ў мяне нічога не выходзіць.

Нядаўна я была на адным вяселлі: поспех мела велізарны. Перацалавалася з цэлым аркестрам, але дахаты мяне ніхто нават не захацеў правесці. І вось цяпер я думаю, куды б паехаць, што прыдумаць, каб некага знайсці. **Нюрка**

Нюрка! Нешта тут не так. Каб прыстойная і прыгожая дзяўчына да 25-ці год не мела ніводнага хлопца, гэта штось не ў парадку. А мо ты не зусім крытычная ў адносінах да сваёй асобы? Мо табе толькі здаецца, што ты такая прыгажуня і карыстаешся такім вялікім поспехам? То чаму цябе ніхто не хацеў правесці дахаты пасля таго вяселля, на якім ты перацалавалася з цэлым аркестрам? Слухай, Нюрка, а можа ты ўсё гэта робіш занадта хутка? Мо каб не выцалавалася на чужым вяселлі, то хтосьці і схацеў бы цябе правесці, маючы ціхую надзею, што пацалунак атрымае на развітанне?..

Вядома, у 25 гадоў ты маеш ужо менш шанцаў, чым мела ў 20. У сучасны момант амаль усе дваццацігодкі ўжо аформленыя. Што можна параіць табе на лета? Не лезь са шкуры, не будзь нахальнай, паводзь сябе спакойна, але будзь, вясёлая, добразычлівая і не паказвай хлопцам, што вельмі табе хочацца выйсці замуж. Але і не гавары таксама, што хлопцы табе не імпануюць, што выхад замуж не для цябе.

Паедзь, як штогод, з кампаніяй на канікулы, але не цурайся там, дзе будзеш, і іншых знаёмстваў. Мо, адно з іх і будзе тваім прызначэннем. **Сэрцайка**

# Расклад руху аўтобусаў ПКС з Гайнаўкі

| Прыезд | Мясцовасць | Стаянка | Ад'езд |
|---|---|---|---|
| 6.41е, 15.01, 16.56 | **Беласток** цераз Нараўку, Жэдню | 2 | 7.00е, 11.00, 15.25 |
| 7.30а, 7.50авж, 10.50е, 12.20, 14.10д, 14.50, 15.50д | **Беласток** ц. Навасады, Нараў | 1 | 5.15ж, 6.00ж, 6.45ж, 7.45дж, 8.30, 10.00, 11.15е, 12.40, 14.30, 15.00е, 15.30, 22.00 |
| 9.15, 13.15д | **Беласток** ц. Трывежу, Нараў | 3 | 8.00, 14.00д |
| 11.46 | **Беласток** ц. Бандары | 2 | |
| 17.11 | **Беласток** ц. Тыневічы, Нараў | 1 | 8.10ав |
| 16.59 | **Беласток** ц. Чыжы, Нараў | 4 | 6.40 |
| 8.09 | **Беласток** ц. Бельск Падл. | 4 | 18.05 |
| 6.24, 6.34аж, 11.24, 12.29, 13.14, 14.39, 17.39 | **Бельск Падл.** ц. Галады | 4 | 5.55ж, 9.15б, 11.00, 12.30 15.38а |
| 9.04а, 15.19аж | **Бельск Падл.** ц. Локніцу | 4 | 6.45аж, 10.00, 13.30 |
| 6.24, 16.19ж | **Бельск Падл.** ц. Орлю | 4 | 16.25 |
| 6.27 | **Бельск Падл.** ц. Чыжы | 4 | 16.50 |
| 5.45а | **Бельск Падл.** ц. Нараў | | |
| 13.31а | **Бельск Падл.** ц. Кляшчэлі | | |
| 8.48, 16.13 | **Баб'я Гара** ц. Семяноўку | 2 | 6.35, 14.00 |
| 6.36, 9.01, 10.41 15.31, 18.01 | **Белавежа** ц. Буды | 2 | 7.10, 8.35, 13.50, 15.50, 17.05 |
| 7.43 | **Чыжы** | 4 | 6.45ж |
| 7.38дж, 16.28 | **Кляшчэлі** ц. Дубічы Царкоўныя | 2 | 6.00д, 7.44аж, 15.00 |
| 16.36 | **Клейнікі** ц. Чыжы | 4 | 11.45, 15.10ж |
| 5.40а, 15.15 | **Ласінка** ц. Трывежу | 3 | 14.15ав |
| | **Ласінка** ц. Навасады | | 4.50а |
| 5.45д | **Міхалова** ц. Нараўку, Бандары | 2 | 16.35 |
| 5.5^ж, 9.55, 15.25 | **Масева** ц. Нараўку | 2 | 8.00, 13.35, 17.30ж |
| | **Мілейчыцы** ц. Антонава, Орлю, Бельск | | 6.25ж |
| 9.16а | **Нараў** ц. Тыневічы В. | | 10.20а, 13.20а |
| 6.35еж | **Нараў** ц. Навасады | | 16.15д, 17.15ж |
| 12.28а | **Нараў** ц. Чыжы | | |
| 5.00, 7.40аж | **Нараўка** | 2 | 6.20ж, 17.25ж |
| 10.16а, 14.16 | **Орля** ц. Крывяцічы | | 9.00а, 13.00 |
| 7.15ж | **Адрынкі** ц. Трывежу, Нараў | 3 | 16.20 |
| 6.11ж, 12.33а | **Палічна** ц. Арэшкава | 1 | 11.00а, 16.30ж |
| 9.34, 14.38 | **Палічна** ц. Дубічы Царк. | | 7.55, 13.00 |
| 6.35аж, 10.08 | **Сямяцічы** ц. Кляшчэлі | 1 | 14.10ж, 15.45аж |
| 7.55а, 10.20в, 15.33а, 15.58в | **Тапіла** ц. Арэшкава | 1 | 6.30аж, 9.00ва, 14.15а, 14.40вб |
| 7.38, 9.07ав, | **Тыневічы** ц. Камень | 3 | 6.20, 7.50ав 14.40аж, 16.45 |
| 13.00, 18.02 | **Тыневічы** ц. Чыжы | | 6.25, 11.45 |
| 6.30аж | **Тыневічы М.** ц. Навасады | 1 | 5.10а, 15.20жа |
| 20.34с, 11.54с | **Варшава** | 2 | 6.50с, 14.00с |

а — ходзіць у працоўныя дні,
б — ходзіць у дні навукі ў школе,
в — ходзіць у вольныя суботы,
г — не ходзіць у вольныя суботы,
д — не ходзіць у днях 1986.12.25 і 1987.04.19,
е — не ходзіць у днях 1986.12.25, 1987.04.19 і 1987.01.01,
ж — першынство для пасажыраў з месячнымі білетамі,
с — скоры.




### РЫБНЫЯ ЗРАЗЫ ФАРШЫРАВАНЫЯ

На паўкілаграма рыбнага філе трэба ўзяць 1 яйцо, 3 цыбуліны, 1 сталовую лыжку масла, 2 сталовыя лыжкі цёртай булкі, 1 шклянку памідорнага соусу, паўшклянкі малочнага соусу, прыправы па смаку, соль. Рыбнае філе памыць і прапусціць праз мясарубку. Дадаць яйцо, прыправы і соль і перамяшаць так, каб атрымалася аднародная маса. Падрыхтаваць густы малочны соус, дадаючы да яго смажаную цыбулю.

**Густы малочны соус** нарыхтоўваем наступным чынам: на 3 шклянкі малака бярэм 6 сталовых лыжак масла, па 3/4 шклянкі мукі і булёну (або вады), 1 чайную лыжачку цукру, соль.

Падсмажаную на масле муку разводзім гарачым малаком. Даліваем булён ці ваду і мінут пятнаццаць варым соус, а пасля гэтага дадаем цукар і соль. Працэджваем.

З рыбнага фаршу робім невялічкія аладкі, на сярэдзіну кожнай кладзем крыху густога малочнага соусу і спалучаем краі. Робім аладкі ў авальнай форме, паніруем іх у цёртай булцы і кладзем у глыбокую ванначку, змазаную тлушчам. Рыбныя зразы заліваем памідорным соусам і запякаем у духоўцы.

**Памідорны соус** робім наступным чынам:

На паўтары шклянкі памідорнага перацёру даем 2,5 лыжкі мукі, 1 морквіну, 1 пятрушку, 1 цыбуліну, 1 сталовую лыжку масла, 3 шклянкі мясного булёну, 1 сталовую лыжку тлушчу, соль.

Падсмажыць муку на патэльні, развесці яе гарачым булёнам. Абабраную моркву, пятрушку і цыбулю пасячы і крыху падсмажыць. Пасля гэтага дадаць памідорны перацёр і падаграваць мінут 10-15. Дадаць булён і паварыць яшчэ мінут 10 на малым агні. У канцы гатавання дадаць масла і соль, пасля чаго перамяшаць, працадзіць і давесці соус да кіпення. **Гаспадыня**

# СОННІК



**Горб** — вялікі даход; убачыць гарбатага — выйгрыш.
**Горла** паласкаць — апынуцца ў даўгах; падрэзанае — удача ў любоўным збліжэнні.
**Горцы** (гуралі) — хітрасць, падвох.
**Горы** — нявернасць; з руінамі — перашкоды ў дарозе; уваходзіць — перашкоды, цяжкасці; стаяць на вяршыні — пераможаш, будзеш трыумфаваць; бачыць — пашана, гонар.
**Госці** — новае сяброўства; развітвацца — разлука; быць госцем — вялікія выдаткі; госці ў краме — зважай, будзь пільным.
**Граблі** — паграгажаць імі — заўвага з боку начальніка або ўладаў.
**Грабніца** — сумныя навіны; быць каля грабніцы знаёмага — прыяцелі запросяць цябе ў гасціну.
**Град** — вялікія страты; твае планы рухнулі.
**Грамадзянін** — быць ім — прыгнёт, дрэнна абыдуцца з табой, выкарыстаюць тваю працу; прасіць грамадзянства — палепшанне адносін; прымаць грамадзянства — непаладкі з сябрамі.
**Грамафон** — асцерагайся глупстваў.
**Граніца** — упарадкуеш свае справы.
**Граф** — пашана.
**Грашы** (манеты) лічыць — скупасць; атрымаць — нізка цябе цэняць; даваць — удзячныя сябры.
**Гром**, маланка — жахлівыя, страшныя звесткі; неспадзяванае спатканне.
**Гронка** вінаграду цёмная — прыгода; белая — радасць; есці — дзіцячыя хваробы; рваць — страта з-за ўласнай неасцярожнасці.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Для самых маленькіх

Ю. Зарытоўскі

## ШТО СНІЛАСЯ ПАРСЮЧКУ?

Было лета. Шчанюк, кацянятка, парсючок, баранчык і пеўнік сядзелі на лавачцы і скардзіліся адзін другому.

— Але ж і гарачыня! — сказаў пеўнік.

— Зусім як у Афрыцы! — згадзіліся шчанюк, кацянятка і баранчык.

А парсючок нічога не сказаў, таму што яго зусім размарыла на сонейку і ён заснуў.

Але вось парсючок прачнуўся:

— Ой, браткі, снілася мне цяпер нешта вялікае і халаднаватае.

— І што гэта было? — спытаў сабачка.

— Гэта было... — пачаў успамінаць парсючок, — нешта вялікае і халаднаватае. А што — я забыўся.

— Эх ты! Вялікае і халаднаватае ў такую гарачыню — самае галоўнае! А ты забыўся! — раззлаваўся пеўнік.

— А можа, давайце пойдзем і пашукаем тое, што парсючку снілася? — запрапанаваў баранчык.

(Працяг на стар. 10)



Удзельніцы конкурсу беларускай песні для школьнікаў з Нарвы са сваёй настаўніцай Алай Якубоўскай. Фота Я. Чэрнякевіч.

Рыгор Барадулін

## ЯК ВЯСЁЛКУ ТКАЛІ

Калі
На веснавой зямлі
Прайшоўся дожджык босы,
Вясёлку ткаць
Распачалі
Вясёлыя нябёсы.

— Чакайце! —
Гром не мог маўчаць,
Аж задрыжэла неба. —
З якога колеру
Пачаць
Нам ткаць
Вясёлку трэба?
Чырвоны колер —
Ад зары,
З яго мы і пачнём,
Сябры!

Аранжавы
За ім ідзе, —
Аблокі нагадалі, —
З гарачым колерам
Нідзе
Не замярзалі далі.
— Аранжавы, аранжавы,
Скрыпеў ятрак
Абражана.

Жадаю спеласці такой,
Як жытні поўны колас, —
Сказала сонца.
За ракой
Падтакнуў нечы голас.
Жаўна,
Падтакнула яна:
— Жаўцее гожа збажына!

Заладзілі свае
Вятры,
Бягуць,
Як коні з пуні:
— Найлепшы,
Як там ні хітры,
Зялёны колер
Руні.
Зямля зялёная вясной,
Як вецер
Стараны лясной.

— Без вобліку майго
Зусім

(Працяг на стар. 10)

Кастусь Кірэенка

## Салавей-салавейка

**Пачатак у папярэднім нумары**

І другой птушачцы спачатку было, мусіць, надта цяжка. Як быццам неадольны сон хіліў яе галоўку ўніз. Але птушачка ўсё ж не паддавалася... Патрошку-патрошку яна асвойталася са сваім новым месцам. Спачатку напілася вады са сподачка. А потым Алесь заўважыў з радасцю, што паласавалася і тымі чырвонымі чарвячкамі, якіх ён назбіраў для яе пад лісцямі лопухаў...

Праз нядоўгі час птушачка ўжо весела лётала па ўсёй клетцы. Для Алеся насталі шчаслівыя дні. Хутка ён ведаў як чарадзей, чаго птушачка хоча. І заўсёды яму было вялікай радасцю патураць ёй. У вольныя хвіліны Алесь падыходзіў да клеткі і, якія толькі ведаў прыгожыя і ласкавыя словы, — усё гаварыў птушачцы. Ён адчыняў клетку:

— Ляці!.. Палетай па хаце! — запрашаў сваю крылатую сяброўку.

Птушачка даверліва глядзела вішнёвымі вочкамі. Але чамусьці не хацела вылятаць, як быццам чагосьці баялася. Чаго яна баялася? Гэтага Алесь ніяк не мог зразумець. „Што ж гэта за птушачка? — думаў Алесь у такія хвіліны. — Чаму нічым не хоча адгукнуцца?.. Няўжо яшчэ не прывыкла да мяне?.. За такі час?.."

Пасля таго, як птушачка з зялёных зараснікоў трапіла ў няволю, прайшло каля трох месяцаў. Мінула лета. Наляцелі суровыя асеннія халады. Птушачка цяпер часта выказвала нейкі незразумелы для Алеся неспакой. Яна сцішалася толькі тады, калі хлопчык падыходзіў да клеткі і проста ў вочкі птушачцы пачынаў казаць лагодныя словы. А калі адыходзіў, птушачка зноў мітусліва кідалася з аднаго кутка ў другі... Алесь не ведаў, што рабіць. І ўсім скардзіўся на сваю сумлівую турботу...

Аднойчы пад вечар, калі ўсе былі дома і Алесь каторы ўжо раз расказваў бацьку пра птушыную трывогу, да іх у хату зайшоў настаўнік.

— Эх, брат Алесь, — сказаў настаўнік, агледзеўшы птушачку. — Ці ведаеш ты, у каго адабраў волю?.. Гэта ж, братка ты мой, салавей... Адно слова якое!.. Салавей і без волі... Дарэмна ты зрабіў гэта, Алесь!..

— Дык я ж яго на зіму ўзяў!.. — жаласна адказаў Алесь. — Я не адбіраў у яго волю!.. Я выручыць яго хацеў!..

— А можа яго цяпер выпусціць? — спытаў бацька. — Ён так б'ецца... Так непакоіцца...

— Не! — сказаў настаўнік. — Цяпер выпускаць яго не трэба. Ды і не можна. Бо ён прападзе... А непакоіцца птушка таму, што зараз якраз самы час, калі яе родзічы робяць апошні адлёт у вырай... Але гэта хутка пройдзе... Птушка зноў стане спакойная... А выпускаць салаўя зараз нельга таму, што аднаму яму да выраю не дабрацца... І не толькі што аднаму... Позна... сцюдзёна... А ляцець далёка... Справа ў тым, — растлумачыў настаўнік, — што такія малыя птушачкі, як салаўі, не чакаюць халадоў, каб ляцець у цёплыя краіны... Яшчэ ў канцы лета, толькі падымуцца птушаняты, патрошку пачынаюць пасоўвацца на поўдзень. Кожны дзень — патроху... І так, пакуль надыдуць халады, яны ўжо далёка ля цёплага мора...

— От якія мудрыя! — сказаў усхваляваны бацька. — Чуеш, Алесь, што ты нарабіў?!

Алесь і сам быў збянтэжаны... Ен, безумоўна, пачуваў сябе вінаватым... Але ў той жа час яшчэ мацней адчуў і сваю адказнасць за жыццё крылатага сябра.

Доўга цягнулася для Алеся зіма... Нарэшце прыйшла вясна. Хлопчык не мог дачакацца тых дзён, калі з далёкага выраю прыляцяць родзічы салаўя-салавейкі...

Запыханы, узмакрэлы, стомлены і шчаслівы, як вецер, уляцеў ён аднойчы ў хату...

— Салаўі, — крыкнуў Алесь да бацькі і маці. — Вярнуліся салаўі!..

Не аднаго, а можа дзесяткі салаўёў пачуў ён толькі што над ракою, якраз у тым самым месцы, дзе летась было гняздзечка.

Алесь зняў з жэрдкі клетку.

— Салавей! Салавейка мой!.. Ну, ты перазімаваў у хаце. Я цябе выратаваў! А цяпер хадзем да сонца. Туды, дзе твае браты. Хадзем, салавейка!..

Алесь асцярожна адчыніў дзверы, падняўшы клетку пе-

(Працяг на стар. 10)

## СЛУХАЙЦЕ І СПЯВАЙЦЕ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 26 ліпеня а 18-й гадзіне.

### РАДЗІМА МАЯ ДАРАГАЯ

Словы А. Бачылы
Музыка У. Алоўнікава

Радзіма мая дарагая,
Ты ў шчасці жаданым жыві!
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай сыноўяй любві.
На рэках шырокіх і нівах,
Заводах, будоўлях — наўсцяж
Народ наш працуе руплівы,
І край узвышаецца наш.

Я радасць сваю не стрымаю,
І песня ўзлятае сама:
Мне лепей ад роднага краю
Нічога на свеце няма.
Чужое зямлі нам не трэба.
Пачуцці ў нас сёння адны:
Мы хочам, каб мірнае неба
Не знала пажару вайны.

Мы дружбы народам жадаем
І шчырай братэрскай любві.
Радзіма мая дарагая,
Красуйся і ў шчасці жыві!



— Мой муж такі няўдачлівы.

# НІЎКА



— Шарык, ты што — гаспадара не пазнаеш?!

### НАВУЧЫЛІ

Прыйшоў выпускнік інстытута на завод. Сустрэў яго начальнік цэха.

— З інстытута? — пытае.

— З інстытута... — адказвае выпускнік.

— Ну, што ж, — кажа начальнік, — даю табе тыдзень — забывай чаго там цябе навучылі.. Будзеш працаваць!..

### ПРОСТА

— Чэмпіён свету сказаў мне, што я яго змагу спакойна перамагчы.

— Няўжо?

— Сапраўды!

— А што для гэтага трэба?

— Ды зусім не многа: навучыцца гуляць лепш за яго.

### МІКОЛКА

— Кім ты будзеш, як вырасцеш? — пытаюць малога Міколку.

— Транзістарам. Ён крычыць, колькі хоча.

### НАМЕРАЛІ

— Бабуля, далёка да суседняй вёскі?

— Было пяць кіламетраў. А потым спецыялісты прыехалі з горада, перамералі, намералі сем кіламетраў, ды й зніклі. А нам цяпер хадзі яшчэ два лішніх кіламетраў.

### ПАМЫЛКА

— А дзе ты праводзіш вечары?

— Дома, разам з жонкай.

— Вось гэта каханне?

— Дзе там! Радыкуліт!

### ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Не сваволіў, не спісваў, не падказваў, не прапускаў, не шпаргаліў, не меў хвастоў, не адмаўляўся, не ўхіляўся, не перабіраў, не імкнуўся, не захапляўся, не пярэчыў, не засмучаўся, не браў у галаву, не гарэў, не апраўдаў надзей, не адбыўся, не жыў...



Быў да таго слабы духам, што піў толькі моцныя напіткі.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Чым адрозніваецца сучасны пісьменнік ад класіка?

— Класік заўжды думаў і ствараў вялікую літаратуру. Сучасны пісьменнік думае пра вялікі абсяг, вялікі тыраж, вялікі ганарар і пры гэтым думае застацца ў вялікай літаратуры.

*

Вязень піша ліст жонцы:

„Прышлі мне некалькі напільнікаў. Мы тут усе збіраемся пасля абеду і робім сабе манікюр".

*

Афіцэр распякае салдата:

— Радавы Дзюпон, вы вярнуліся ўчора ў казарму п'яны ў сцілку і яшчэ пхалі перад сабою ўкрадзеную тачку.

— Так точна, мой капітан.

— Марш пад арышт!

— Так точна, мой капітан. Але, мабыць, вы ўспомніце, што ў той тачцы былі вы?

### МІНІВЕРШЫ

#### КОТ

Са смакам і заўжды старанна
Ён злізваў з гладышоў
смятану.
А што глыбей у гладышы,
Было Кату не па душы.

У. Правасуд

### З „Весніка Задрыпоніі"

#### ДЛЯ ВАС, ЖАНЧЫНЫ

Добрым падарункам вашаму мужу стане адэкалон „Вернасць", які выпускае Ачуцінаўская фармфабрыка. Яго пах дасканала адпужвае насякомых, валацужных сабак, а так сама чужых жанчын.

#### БАНТОН

Асаблівага абыходжання за сталом патрабуюць фрукты і ягады. Дробныя костачкі (яблык, груш, вінаграду, кавуна і не вельмі вялікіх вішань) можна глытаць. Костачкі з абрыкосаў, сліў, персікаў глытаць непрыстойна. Злажыце іх горачкай і папрасіце ў гаспадыні прас. Калоць можна ў любым месцы, толькі не ў талерцы.







—Вы маеце рацыю, сястра, сёй-той сапраўды грукае ў дзверцы.

# Курёзы

### БЛІЗКАЕ ЗНАЁМСТА

Прыбыўшы нейк у Сан-Францыска на канферэнцыю інжынераў-нафтавікоў, заходнегерманскі бізнесмен В. Шэфер вырашыў, як гэта прынята, палюбавацца характвом горада. Вось і пайшоў у парк, што непадалёк славутага моста „Залатыя вароты".

Гэты праменад запамятаецца госцю надоўга: сярод белага дня чацвёра маладзёнаў адабралі ў яго кофр з камерай ды іншымі фотапрыладамі, а калі ён кінуўся на дапамогу да групы маладых людзей, што якраз трапілася, дык тыя пазбавілі яго яшчэ і кашалька.

Не ведаем, як адносна характва Сан-Францыска, але з норавамі гэтага амерыканскага горада госць пазнаёміўся, як бачыце, даволі блізка.

### РАЗМАХ БУДАЎНІЦТВА

Апошнім часам у Турцыі назіраецца ажыўленне ў галіне будаўніцтва: па заказах міністэрства юстыцыі будуюцца 49 турмаў, а яшчэ 68 праектуюцца. Гэты (пазітыўны фактар!) дае магчымасць абяспечыць працай 6000 чалавек. А 450000 неўзабаве атрымаюць больш надзейныя камеры.



Стрэлачнік вінаваты і там, дзе няма чыгуначных дарог.